Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

АДНА ЗЯМЛЯ

# Рэгіянальная газета

16 - 22 СТУДЗЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ
№3 (143)

## НУ ШТО ЗА ЗІМА?

ФОТАЭЦЮД АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА.

*Будуем*

## Да будет свет!

***ВІЛЕЙКА. Тут прайшоў пробны пуск гідраэлектрастанцыі, якую ўзвялі на вадасховішчы мясцовыя будаўнікі. Справа за энергетыкамі. І тады - канчатковы пуск станцыі.***

Але для вілейчан, як мяркуюць многія, электрычнасць не стане таннейшай, бо новую ГЭС уключаюць у агульную энергасетку краіны. А прасачыць, куды бяжыць мясцовая энергія, немагчыма. Праўда, ёсць два станоўчыя моманты. Работа станцыі бясшкодная для здароўя і дасць новыя рабочыя месцы.

*Аддзел інфармацыі.*

*Штотыднёвік*

**СТУДЗЕНЬ 19-25**

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
|---|---|
| Схадзіць на пошту і падпісацца на "РГ" на пару-тройку месяцаў, а то і на паўгода (48 тыс.) | 69667 даць аб'яву |
| | **Павіншаваць** |

*Сітуацыя*

## Таксісты-прыватнікі вучацца

***МАЛАДЗЕЧНА. Прадпрымальнікі, якія аказваюць паслугі па перавозцы пасажыраў, павінны прайсці прафесійнае навучанне. Літаральна за тры дні папоўніць свае веды, здаць экзамены і атрымаць пасведчанні.***

Бухгалтар Беларускай асацыяцыі "Таксі рэспублікі" так і не сказала, колькі такі працэс будзе каштаваць. Менавіта спецыялісты гэтай асацыяцыі будуць і вучыць, і выпісваць дакументы. Без іх (пасведчанняў) немагчыма атрымаць ліцэнзію на азначаны від паслуг. А ў каго яна ўжо ёсць, усё адно трэба вучыцца.

Гарвыканком стварыў спрыяльныя ўмовы для мясцовых прыватных таксістаў. Ім неабавязкова ехаць у сталіцу. Заняткі пройдуць з 19 па 21 студзеня ў памяшканні аўтапарка №4. Нічога не зробіш - загад Міністэрства транспарту і камунікацый РБ ад 17. 07. 97 пад №167-4. Акрамя таго, у машынах-таксі павінны з'явіцца таксометры. Вадзіцелі незадаволеныя: у чарговы раз трэба выкладваць грошы.

*Аддзел інфармацыі.*

*Суд ды справа*

## Палітыкай і не пахне

***АСТРАВЕЦ. Пад старшынствам суддзі Генадзя Янкоўскага тут пачаўся судовы працэс над двума беларускімі бардамі - Алегам Мізулам з Гродна і Андрэем Мельнікавым з Гомеля. Абодвум інкрымінуецца добра ўжо вядомы 88-ы артыкул КК - незаконны пераход мяжы па папярэдняй змове. Затрымалі іх яшчэ 13 жніўня ў прыгранічнай зоне паблізу Катлоўкі.***

Падсудныя віну прызналі часткова, бо ні пра якую змову наконт перасячэння лініі паміж суседнімі дзяржавамі гаворкі ісці і не магло. Адзін хацеў падзарабіць грошай на будаўніцтве ў прыгранічнай літоўскай вёсцы, каб ўзяць удзел у канцэрце, што ладзіла ў Вільні беларуская моладзь, а другі якраз туды і накіроўваўся.

Адвакатаў цікавіла, адкуль у грамадскага істца з вайсковай часткі узяліся такія істотныя памеры ўрону (затрыманне хлопцаў, следчы эксперымент, іншае). Сумы ваганіся ў межах 3 мільёнаў рублёў. Каб не зацягваць працэс, падсудныя ўсё ж згадзіліся з выстаўленымі матэрыяльнымі прэтэнзіямі.

У сераду апошняе слова прадаставілі Мізулу, у чацвер - Мельнікаву.

Учора суд завяршыўся. Алега Мізулу суд аштрафаваў на 30 мільёнаў рублёў, Андрэя Мельнікава-- на 10 мільёнаў рублёў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*Навіны*

## Рагатыя наступаюць

***ВАЛОЖЫН. У Вішнеўскім лясніцтве на тэрыторыі паляўнічай гаспадаркі "Жардэлі" будуецца вальер.***

Тут чакаюць навасёлаў - неўзабаве завязуць больш за 50 галоў плямістых аленяў. Гэтых ганарлівых жывёлін валожынцы бачылі толькі ў звярынцы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Лепш быць хворым, чым здаровым?

***АСТРАВЕЦ. Не адзін год у мясцовым ДРБУ-159 выдзяляюцца грошы для хворых работнікаў.***

А нядаўна тут вырашылі дадаткова выдзяляць грошы на лекі тым хворым, што знаходзяцца на стацыянарным лячэнні. У залежнасці ад характару і працягласці хваробы кожны хворы можа атрымаць каля паўмільёна рублёў.

Хаця як бы там ні было, а здаровым заставацца ўсё ж лепш.

*Аддзел інфармацыі.*

## Прымусілі працаваць

***ВІЛЕЙКА. У мікрараёне Макаўе адкрыты чацверты па ліку магазін ААТ "Камбікормавы завод".***

Прадпрыемства выкупіла на аўкцыёне будынак, што будаваўся 5 гадоў. Уклала немалыя сродкі, прымусіла былую развалюху працаваць і на сябе, і на карысць вілейчан.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Адвакатаў пасадзілі

***ВАЛОЖЫН. У маленькім пакойчыку шматкватэрнага дома месціліся мясцовыя адвакаты, прымалі наведвальнікаў па чарзе, каб не перашкаджаць адзін аднаму.***

З новага года ў адвакатаў - наваселле. Іх перасялілі ў большы пакой. Але і чэргаў да іх няма. Мусіць, людзей палохае надпіс ад рукі на ўваходзе: "Усе кансультацыі платныя".

*Сямён ШТЭЙНЕР.*

## Шчодры вечар

***ВІЛЕЙКА. На калядны вечар запрасілі работнікі Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея сваіх сяброў. Ва ўтульнай выставачнай зале ўжо каторы раз сабраліся тыя, хто любіць верш, раманс, дасціпнае слова.***

Тут гучалі і вядомыя для вілейчан творы, як песня **Міхалая Патаповіча** і **Валерыя Скаражонка** "Вілейка", так і новая, якая стала нечаканасцю нават для аднаго з іх аўтараў **Клаўдзіі Дубовік**. А зрабіла ёй і ўсім прысутным такі калядны падарунак выканаўца і самадзейны кампазітар **Таццяна Захарыч**.

Прыемна, можа, нават не тое, што на вечары гучалі вершы і песні ў выкананні аўтараў. Дарэчы, вельмі ўдалыя. А тое, што гарадскія ўлады лічаць гэтыя сустрэчы сваімі. Не думаю, каб многія гарады маглі пахваліцца тым, што мэр можа прачытаць вершаваныя радкі для гараджан. **Пётр Юдо**, сам вілейчанін, не лічыць непрыстойным свой удзел у такіх вечарынах.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Грошы Рэчы Паспалітай у музеі

***АШМЯНЫ. У аматараў даўніны з'явілася цудоўная магчымасць больш дасканала і глыбока зведаць гісторыю краю: у мясцовым краязнаўчым музеі адкрытая экспазіцыя "Эпоха металу".***

Ёсць тут прылады працы і побыту, баявыя ружжы, чаканка, сучасныя гаспадарчыя прылады.

Папулярнасцю карыстаюцца іконы, канфіскаваныя параўнальна нядаўна мясцовымі мытнікамі, і манеты, знойдзеныя на тэрыторыі Гальшанскага замка. Ёсць меркаванні, што гэта грошы Рэчы Паспалітай.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*Прамая лінія*

## Дзе вока бачыць, там і рука робіць

***СМАРГОНЬ. 143 пытанні ўзнялі летась жыхары горада на "прамой лініі" аддзела сацыяльных праблем райвыканкома пры рабоце інфармацыйных груп. Большая частка пажаданняў працоўных выкананая, некаторыя знаходзяцца на кантролі мясцовых улад.***

Вяскоўцы з Вялікай Мысы, Байбаў, Шутавічаў займелі тэлефоны. Тэлефон-аўтамат з'явіўся ў Прамысловым мікрараёне райцэнтра. Там жа адкрылася цырульня, арганізаваны прыём шклопосуду, павялічыўся асартымент і больш парадку стала ў магазіне.

Такую ўзаемасувязь з насельніцтвам ініцыяваў старшыня райвыканкома **Мікалай Кавалёў**. Маўляў, вока чалавека, які без пасады, бачыць лепш.

*Аддзел інфармацыі.*

*Статыстыка*

## За 1997 год спажывецкія цэны ў Беларусі павялічыліся на 63,8 %

***Індэкс спажывецкіх цэн у Беларусі ў снежні 1997 года да лістапада склаў 102,3 працэнта. Аб гэтым сведчыць Міністэрства статысткі і аналізу рэспублікі.***

За ўвесь жа мінулы год спажывецкія цэны выраслі на 63,8 працэнта, што некалькі вышэй, чым у 1996 годзе (тады гэты паказчык быў роўны 152,7 працэнта).

*Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.*

Стары альбом

У 1915 годзе вогненны вал Сусветнай вайны дакаціўся да берагоў Нарачы. Кайзераўскія войскі ўзвялі бетонныя ўмацаванні, праз калючы дрот на асобных участках прапусцілі электраток. Зімой праз Нарач ставіліся "рагаткі"-- драцяныя агароджы. У сакавіку 1916 года падчас наступальнай аперацыі рускіх войск на захад немцы прымянілі газ, ад якога загінулі сотні салдат рускай арміі.

У тыя дні адзін са штабоў нямецкай арміі знаходзіўся ў панскім палацы ў мястэчку Кабыльнік (з 1964 г.-- вёска Нарач). Сюды з фронту на адпачынак адводзіліся нямецкія часці. Для афіцэраў было абсталяванае казіно. У Старым альбоме жыхаркі Нарачы **Со'фі Аляксандраўны Дзяргач** сярод іншых захаваўся і гэты здымак, зроблены нямецкім фатографам. Здымкі збярог у свой час яе бацька **Аляксандр Францавіч Дзяргач**, які шмат год сам быў прафесійным фатографам і шмат што адлюстраваў з жыцця вёскі, побыту сялян, інтэлігенцыі да 1939 года і ў наступны перыяд. Другі здымак зроблены Аляксандрам Дзергачом ля гэтага самага будынка, але ўжо за польскім часам. У ім размяшчалася цырульня.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*



## Юбілярка на юбілей не паехала

***ВІЛЕЙКА. У адзін дзень супалі юбілеі - Мінскай вобласці 60 гадоў, Марыі Касяк - 80. Юбілярку запрасілі ў складзе дэлегацыі ў сталіцу. На юбілей. Ветліва адмовілася - днямі ў вёсцы не будуць віншаваць. Што ні кажы - трэба рыхтавацца.***

Марыя Іванаўна 30 гадоў адпрацавала льнаводам, узнагароджана Залатою Зоркай Героя сацпрацы. Сярэдзіну шасцідзесятых успамінае з асаблівай цеплынёй, бо тады маглі і папрацаваць, і зарабіць. Менавіта тады яе і адзначылі ганаровым званнем.

Жанчына жыве ў вёсцы Заазер'е. Нягледзячы на свой даволі сталы ўзрост, трымае кабанчыка, курэй. Жыццё пры Польшчы ўспамінае, як пакуты.

Марыя Іванаўна выхавала 2 сыны. Саша быў лётчыкам, на жаль, пайшоў з жыцця. Міхаіл працуе галоўным аграномам у раёне. У яго чацвёра дзяцей.

Юбілярка жадае ўсім здароўя, каб не было вайны, усе дружна працавалі і штомесяц атрымлівалі зарплату.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Невясёлы пачатак года

***ВІЛЕЙКА. У пачатку года 3-гадовая дзяўчынка захварэла на менінгіт і памерла.***

Летась за цэлы год была адна смерць пры наяўнасці 3 выпадкаў гэтай хваробы ў дзяцей.

У дзіцячым садку №3 каранцін. У 7 малых - жаўтуха.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Хто на што вучыцца

***МАЛАДЗЕЧНА. Любому бацьку і маці знаёмыя няўздымныя ранцы дзяцей-школьнікаў. А вось у мясцовую СШ №11 вучні часта ходзяць з 2-3 кніжкамі.***

Тут паступілі проста (і геніяльна): расклад ўрокаў зрабілі, як у вну,- "парамі".

Знаёмы дырэктар школы прапанаваў выкінуць з раскладу "лішнія" ўрокі (любы настаўнік назаве некалькі). Урокі працы, на якіх выкладчыкі не ведаюць, чым заняць дзяцей, можна праводзіць па выбары вучняў - тыя прынасяць з сабою выпальванне ці дэталі (нават і аўтамабільныя!) і працуюць з імі.

Шкада толькі, што дырэктар гэты не кандыдат педнавук - мо, прыслухаліся б да яго. І мелі б дзеці два выхадныя, як і ўсе нармальныя людзі.

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

## Абмяняліся сувенірамі

***МЯДЗЕЛ. На беразе Нарачы сярод стромкіх соснаў у невялікім доміку праводзіў улетку свой адпачынак Максім Танк. Сюды з жонкай, дзецьмі, унукамі прыязджаў і ў іншую пару года. Стан здароўя прымушаў звяртацца да мясцовых медыкаў, наведваць аптэку.***

Загадчыца аптэкі **Юлія Пінчукова** аднойчы паднесла жонцы паэта сувенір - кактус. Пра гэта Яўген Іванавіч зробіць 21 жніўня 1985 года такі запіс у сваім дзённіку: *"Загадчыца аптэкі Юлія Пінчукова падарыла Любашы дзіўны кактус з калючкамі, пакрытымі нейкім белым пухам. Казала, што ён прыгожа цвіце".*

Ці застаўся паэт у даўгу? Загадчыца аптэкі расказала:

- У той жа самы дзень у аптэку заходзіць Яўген Іванавіч і ўручае мне свой збор твораў у трох тамах. Шчыра падзякавала за такі падарунак. Дома прачытала дароўны надпіс: "Дарагой Юліі Мікалаеўне на добрую памяць аб нарачанскіх сустрэчах і з падзякай за дапамогу ў цяжкія хвіліны жыцця аўтара. Ад усяго сэрца Максім Танк. Нарач, 21. VIII. 1985 г.".

Падарунак ад Народнага Паэта Юлія Пінчукова трымае ў кніжнай шафе на самым відным месцы. Калі выпадае вольная хвіліна, перачытвае паэтычныя радкі вялікага сына Нарачанскага краю, знакамітага Чалавека Беларусі.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

Культ-ура

**МАЛАДЗЕЧНА**. Спектакль па п'есе **В. Швэмбергера** "Маша і Мядзведзь" будзе прадстаўлены 19 студзеня Мінскім абласным тэатрам лялек "Батлейка" як адзін з апошніх у тэатральным сезоне 1997 года на творчай лабараторыі лялечных тэатраў, якая ўжо другі год існуе пры Дзяржаўным тэатры лялек у Мінску.

Святочны вечар, прысвечаны 60-годдзю ўтварэння Мінскай вобласці, адбыўся 14 студзеня ў Доме культуры чыгуначнікаў. Творчую праграму свята рыхтаваў гарадскі Дом культуры.

На ўрадавы канцэрт, што адбыўся 16 студзеня ў канцэртнай зале "Мінск", былі запрошаныя два вядучыя творчыя калектывы ГДК: народны ансамбль песні і танца "Спадчына" (мастацкі кіраўнік **Іосіф Сушко**) і гарадскі сімфанічны аркестр (дырыжор **Рыгор Сарока**).

**АШМЯНЫ.** Юбілейны вечар дырэктара ААТ "Сельгасхімія" **Генрыха Бубена** адбыўся 26 снежня ў гарадскім Доме культуры (творчая задумка **Алены Калыбінай**). Прайшоў ён у форме некалі вельмі папулярнай праграмы "Ад усяе душы". Павіншаваць юбіляра прыйшлі не толькі сваякі, калегі, сябры, а і некаторыя абавязковыя персанажы калядных і навагодніх забаў. Напрыклад, бліскуча з роляй Снягуркі справіўся дырэктар ЖКГ, не менш запамінальнай атрымалася роля Бабы Ягі ў выкананні дырэктара мясакамбіната.

16 студзеня на эстрадную праграму "Усе зоркі ў госці да нас" запрашае гарадскі Дом культуры.

**СМАРГОНЬ.** "Агеньчык" для работнікаў сістэм сацыяльнага забеспячэння прайшоў 10 студзеня.

Тры гурты калядоўшчыкаў (2 дарослыя і 1 дзіцячы) віншавалі 7 студзеня жыхароў горада і раёна са святам Ражства Хрыстова.

Вялікае тэатралізаванае прадстаўленне з гэтай нагоды было наладжана на плошчы каля Дома культуры.

31 студзеня возьме старт раённы фестываль мастацтваў, што будзе праходзіць у рамках І абласнога фестывалю народнага мастацтва Беларусі "Беларусь - мая песня". Пачнецца ён у Сінькаўскім СДК (дырэктар **Галіна Варановіч**). У праграме фестывалю - канцэрты розных мастацкіх жанраў, выстаўкі вырабаў майстроў народных рамёстваў.

**ВАЛОЖЫН.** Сталічны гурт вандроўных музыкаў "Янка" быў запрошаны на калядныя святы ў раённы Дом культуры. Гульнёва-забаўляльная праграма для дарослых і дзяцей доўжылася больш за тры гадзіны.

Вечар, на якім ушаноўвалі лепшых спартсменаў раёна, адбыўся 14 студзеня.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

## Кіркора сваім лічаць у Расіі, Літве, Польшчы, але толькі беларусы могуць называць яго земляком

***21 студзеня 1998 года спаўняецца 180 год з дня нараджэння Адама-Ганоры Карлавіча Кіркора - вядомага беларускага краязнаўцы, археолага, этнографа, публіцыста і выдаўца. Гэтага шматграннага вучонага лічаць сваім і ў Польшчы, і ў Літве, і ў Расіі - усюды, куды закідваў яго нялёгкі лёс. Згодна з беларускімі энцыклапедычнымі выданнямі, Адам Кіркор нарадзіўся 21 студзеня 1818 года ў двары Слівін (адсюль адзін з літаратурных псеўданімаў - Ян са Слівіна) Магілёўскай губерні.***



Праўда, ёсць і іншая дата - 1 студзеня 1819 года. Як відаць з гэтага, не ўсё ясна ў біяграфіі вучонага; працы яго, лісты раскіданы па архівах розных гарадоў і краін. Актыўна займаючыся выдавецкай дзейнасцю, Кіркор быў нялюбы царскім уладам, таму яму прыходзілася мяняць месца жыхарства. Спачатку ён быў вымушаны пакінуць Вільню і перабрацца ў Пецярбург, аднак там пацярпеў няўдачу з выданнем газеты "Новое время", таму кінуў усё і перабраўся ў Кракаў, дзе правёў рэшту жыцця. Там ён і пахаваны.

Адам Кіркор атрымаў адукацыю ў Магілёўскай і Віленскай гімназіях, у Віленскім Дваранскім інстытуце. Ён рана захапіўся гісторыяй і археалогіяй, шмат часу ўдзяляў раскопкам, стаў выдаваць на падставе атрыманых пры гэтым матэрыялаў свае працы, прысвечаныя, у асноўным, Беларусі. Вучоны вывучаў Вілейскі, Ашмянскі, Навагрудскі, Мінскі і Барысаўскі паветы.

Шмат цікавых звестак пра наш край мы знаходзім у яго невялікай працы "Археалагічная экскурсія па Віленскай губерні". Аўтар апісвае Міхалішкі, Свір, Мядзел, Войстам, Іжу, Любань, Куранец, Краснае, возера Свір і Нарач. З гэтай працы мы даведваемся, як выглядалі палац у Дабраўлянах і сядзіба пісьменніка І. Ходзькі ў Дзевятнях. У час паездкі ім адкрыты шэраг вядомых цяпер археалагічных помнікаў Вілейшчыны - курганныя магільнікі на рацэ Вузла і ў Губскай пушчы, гарадзішча ля вёскі Галянова і ў Малышках, гарадзішча-свяцілішча ля вёскі Рэчкі. У час экскурсіі ў Куранцы, Рэчках, Даўгінаве і ў іншых месцах ім былі запісаныя легенды і паданні, што ўвайшлі ў працу "Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню".

На возеры Мястра Кіркор знайшоў падмуркі замка, у Гарадзілаве - курганы, якія пазней раскапаў пры садзейнні мясцовай пісьменніцы Габрыелі Пузыны.

Ужо знаходзячыся ў Кракаве, вучоны напісаў для выдання "Живописная Россия" том, прысвечаны Беларусі. Згаданыя ў гэтым артыкуле працы - толькі частка вялізнай творчай спадчыны А. Кіркора, значныя яго заслугі ў развіцці археалогіі і ў вывучэнні гісторыі Беларусі.

*Аляксандр ЗАЙЦАЎ.*

